

* * *

Калыхала матка
Ды сваё дзіцятка.
І прасіла ў Бога
Шчасця яму многа.
А яшчэ найболей
Ды прасіла волі.
Каб сабе быў панам
У вечары і рана.
І каб свае коні.
Ўздымалі гоні.
Каб у шчаслівай долі
Дзеці елі ўволю.
Ды са сваёй дружынай
Быў ва ўсім адзіны.
Каб старэньку маці
Маглі даглядаці.
І каб людзей сталых
у Бозе паважалі
А старога бацьку
каб дзядулем звалі.

* * *



* * *

Тра-та-та, тра-та-та,
Выйшла кошка за ката.
За катом добра жыць,
Бо штаноў не трэба шыць.
Ды няма й другой турботы:
Кот не шые нават боты,
Не патрэбен і кафтан.
Апрануты кот, як пан.
І свінні наш кот не брат -
Поўсць калматая да пят.

* * *



* * *

**Замовы**

Тупні, тупні, дзетка ножкай,
Лёгкай будзе хай дарожка.
А каб ножкі-хадунічкі
Ды былі раскуты –
Я вазьму нажнічкі,
Перарэжу путы.

Для хлопцаў

Чык ,чык, чык
Ідзі, Ягорка невялік,
Дай жа Божа, яму сілы,
Каб ён вырас,як асілак.

Для дзяўчынак

Чыкі, чыкі, чыкі
Ідуць ножкі невялікі.
І, як Божы дзень пагожы,
Каб яны былі прыгожы.

***

Хадзі, дзетка, босы,
Хадзі абуты,
А я перарэжу
У тваіх  ножках путы.

* * *



* * *

Агурочак, агурочак,
Не хадзі за той масточак,
Мышка там жыве ў лазе
Табе хвосцік адгрызе.
За масточак я пайду,
Куст лазовы той знайду.
Дубчык адламлю,
Мышку праганю.

* * *



* * *

Спаць пара, маё дзіцятка
Баю, баю, бай.
Беражэ Бог немаўлятка
Баю, баю, бай.
Над калыскаю анёлу
Баю, баю, бай.
Бог на варту стаць дазволіў
Баю, баю, бай.
Набірайся ў сне моцы
Баю, баю, бай.
Хай не страшаць жахі ночы
Баю, баю, бай.
Дай жа, Божа, і матулі
Радасці надзей.
Адвядзі і гэтай ночкай
Ты ліхіх людзей.
І лукавы хай не знойдзе
Сцежкі ў наш дом,
Мы яму шлях загародзім святым абразам.

* * *



* * *

Цёмнай ночкай дзетку
Калыхала маці
Дай жа Божа шчасця
Ты майму дзіцяці.

Беражы пры доме,
Сцеражы ў дарозе:
Пашлі дапамогу –
Упадзе ў знямозе.

* * *



* * *

Люлі, люлі, люлечкі,
Люлечкі, люлі.
А дзе ж, мае гулечкі,
Сёння вы былі?

Мы лятали пташачкі
За зялёны бор.
Апусцілі крылачкі,
Ды ў чужы двор.

Вадзіцай крынічнай
Спадар частаваў,
Грэчкай, ды пшанічкай
Двор ён пасыпаў.

Бела пташка піла многа,
Піла ды ўпілася.
Да спадара маладога
Жыці падалася.

* * *



* * *

Люлі, люлі, люлі
Прыляцелі гулі.
Селі на варотах
Усе ў чырвоных ботах.
Гулькі прыляцелі
Есці захацелі
Селі, шчабяталі,
Каб ім грэчкі далі,
Каб ім грэчкі далі,
Моцна шчабяталі.
Ой, сыпну вам грэчкі,
Мае дарагія,
Каб неслі яечкі,
Ды ўсе залатыя.
Як сыпнуў ім проса
Есці не схацелі,
Пакруцілі носам
Фыр, фыр – паляцелі.

* * *



* * *

**Замовы**

Крынічка, крынічка,
Дай мне вадзічкі,
Каб дзетку напаіць
Тваёй сілачкі набыць
Прагнаць хваробу,
Збыць худобу.
Вытру вадзіцай яму ясны вочкі
Каб прапалі страшкі, што пужалі ночкай.

На сваю дачушку
Выллю вады кружку.
Вада ліся долу ў пору,
А дачушка расці ўгору.

На свайго сыночка
Выллю воду са збаночка.
Вада ліся долу ўпору,
А сынок расці ўгору.

* * *



* * *

А наша Арыначка
Прыгожая дзяўчыначка.
Бы ў полі рабіначка,
Ля мастка каліначка.

А наша Арыначка
Бегла праз масток,
Сарвала з каліначкі
Зялёны лісток.



* * *

## Пацешка

Гушкі, гушкі, гушкі.
Паляцелі птушкі.
Селі на галінку
Калыхаць Арынку.
Галінка пахілілася
Птушачка звалілася.
Бух!

Да Арынкі бег бычок
Стукнуў рожкамі ў бачок.
Бух!

Топы, топы ножкамі
Букі, букі рожкамі.

* * *



На лужку за рэчкаю
Сустрэла бычка:
- На табе лісточак,
Дай мне малачка.

Здзівіліся броўкі
У таго бычка:
Вунь ідзе кароўка –
Дасць нам малачка.

* * *



* * *

Пайшоў коцік пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
І вось гэтую ўдачу
Воўк зайдросны раптам убачыў
Моцна енчыў, галасіў
І яму злавіць прасіў.
Мой каточак дарагі,
Ты й мне плотачку злаві,
Бо я й крошачкі не маю.
Дай мне рыбку – патрымаю.
Пабег коцік пад масток,
Лавіць рыбку за хвасток.
Там ён рыбку не злавіў.
Толькі лапкі абмачыў.
Пакуль коцік цікаваў
Дык воўк з рыбкаю прапаў.

* * *



* * *

Мыш аб’елася ў аўсе –
Забалеў жывоцік
Хто ёй лекі прынясе? –
Можа доктар-коцік?
Каб жывот ёй не балеў
Коцік з жалю мышку з’еў.
А цяпер наадварот –
У ката баліць жывот.

* * *



* * *

Спі, маё дзіцятка,
Дзён тваіх нямнога.
Ты ад нараджэння
Пад аховай Бога.
Ён твае гадочкі
Палічыў адвеку,
У жыцці назначыў
Звацца чалавекам.
Будзь яму паслушна,
Не рабі благога,
Тады стане лёгкай
Праз жыццё дарога.

* * *



* * *

У Барбоса была соса,
І Барбос яе смактаў.
А як соску ён смактаў,
То нават гаўкаць, нават гаўкаць,
Нават гаўкаць забываў.

Вось аднойчы ў Барбоса
Адабралі тую сосу.
Справа ў тым, што наш Барбос
Вельмі дрэнна, вельмі дрэнна,
Дрэнна з сосай службу нёс.

Раззлаваўся тут Барбос,
Двор пакінуў, будку знёс.
Жыць падаўся ў лясы,
Ходзіць у госці да лісы.



* * *

Люлі, люлі, люлясі,
Пабіліся два Ясі.
А за якую прычыну?
За прыгожую дзяўчыну.
Наша дзеўка красна тварам,
Вам, Ясі, яна не пара.
Ой, Ясі не біцеся,
Дарэмна не сварыцеся.

* * *



А аднойчы асцярожна,
І як быццам бы да справы,
Біў паклон, як толькі можна,-
Запрасіў яе на каву.

А лісіца аж умлела,
І занылі ў целе косці –
Моцна кавы захацела,
Дала згоду прыйсці ў госці.

Вось аднойчы, калі сонца
Закацілася за бор,
Лапкай стукнуўшы ў аконца,
Да Барбоса зайшла ў двор.



* * *

Пайшоў козлік на масток,
Скінуў у рэчачку шасток.
Ножкамі патупаў,
Рожкамі пагрукаў,
Масток пахіліўся,
Козлік пакаціўся,
У рэчачку зваліўся.
Ледзь не ўтапіўся.

* * *



Стаў лісу ён частаваць.
І канешне , і канешне,
Даў ёй сосу пасмактаць.

Дык адкуль жа ў Барбоса
Зноў знайшлася тая соса?
І скажу – ды па сакрэту.
Вам, сябры, я вестку гэту.

Справа ў тым, што ў Барбоса
Запасная была соса.
Запасная, запасная,
Запасная была соса.

*** * ***



* * *

Люлі, люлячкі, люлі,
Жылі пчолкі ў вуллі.
Паляцелі на лужок
Збіраць з кветачак мядок.

А ў тым вуллі
Ды жылі чмялі,
Яны мёд не збіралі
І вулля не мялі.

Ах, чмялі вы лайдакі.
Мы паб’ём вам бакі.
Працаваць вы не хацелі,
А ў сотах мёд паелі.

І так пчолкі загудзелі,
Што чмялі з вулля зляцелі.
Зараз кветкі аглядаюць
І з іх мёд сабе збіраюць.

* * *



* * *

Кую,кую ножку-
Паеду ў дарожку.
Дарожка,крывая,
Кабылка сівая

Кабылка сівая
Ножку паднімае.
Куй,куй,кавалёк,
Каб не слізкі быў лядок.

* * *



* * *

Люлі,люлі,люлі,
Дзеткі ўсе паснулі.
Ды не спіць Арынка-
Мілая дзяўчынка.
Люлі,люлячкі,люляй,
Свае вочкі закрывай.
Закрывай ты вочкі,
Што не спалі ночкай.
Ночкаю не спалі,
Цёмнай не драмалі
Не драмалі ночкай-
Праглядзелі вочкі.
Вочкі замарыліся,
Ціхеніка закрыліся.
Закрыліся вочкі,
Бо не спалі ночкай.
Люлі,люлі,люлі,
Дзеткі ўсе паснулі
І спіць Арынка-
Мілая дзяўчынка.

* * *